Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 1500 м. п.

# НАШ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6). Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.** Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **18.000** м. п. Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі. Цана абвестак: перад тэкстам 3500 мк., сярод тэксту 3000 м. і на 4 стр. 2500 м., за рацок пэтыту у 1 шпальт.

№ 17 — Пятніца, 27-га ліпня 1923 г. — Год I.

## Трэба склікаць Усебеларускі Зьезд Заходняй Беларусі.

Кожнаму ясна, што адным з першых заданьняў, якое ставіць беларускаму грамадзянству, разрэзаўшы папалам яго жывую тэрыторыю Рыскі трактат і ўся з неадбітай лёгікай выцякаючая з гэнага „устаноўчага акту“, як з свайго прынцыпа, „хірургічная“ палітыка Польшчы ў далучанай да яе Заходняй Беларусі, першым і самым агульным заданьнем зьяўляецца — перахаваньне ўселякімі срядствамі—да лепшых часоў нацыянальнага вобліку і нацыянальнага адзінства беларускага народу.

Гэтае адзінства павінна быць захавана і ўмацавана ня толькі ўнутры абедзьвюх разрэзаных палавін, але таксама і ўва ўсім цэлым, ня гледзячы на той падзел, які ўстанавіў Рыскі трактат.

Сілаю рэчаў, з якою хоцькі-няхоцькі рэальны палітык павінен лічыцца, заданьне аб‘еднаньня абедзьвюх, разьдзеленых без нашай згоды і папаўшых пад розныя „заборы“ палавін адзінага жывога цела Беларусі, магчыма, адкладаецца надоўга...

Ува ўсякім выпадку ня ведаем ні дня, ні гадзіны.

Але, як разумныя дзев эвангельскай прытчы, мы ўсе павінны быць гатовы з запаленымі сьветачамі з запасам масла ў іх, прыняць прыходзячага ў поўначы жаніха...

Мы бачым, што мэтад разрэза, падзела, раздрабленьня дэзарганізацыі, "вывісэкцыі зьяўляецца сапраўды ўнівэрсальным, аснаўным мэтадам управы на Заходняй Беларусі. І беларускае грамадзянства павінна ўсяму гэтаму мэтаду раздзяленьня выставіць насупроць усю тую магучую сыстэму мэтадаў аб‘еднаньня, сыстэму якую выпрацавала доўгая эвалюцыя культурна-нацыянальнага сужыцьця, ў якую нямала палажыла практычнага матэр‘ялу і польскае грамадзянства.

Трэба проста і адкрыта сказаць сабе і нашаму народу, што без гэтага найбольшага напружаньня цэнтрапарыўчых сіл, бяз гэтага ўмацаваньня яго арганічнай нацыянальнай спайкі беларускі народ Заходняй часьці адзінага края абернецца ў беларускае насяленьне „Усходніх Крэсаў Польшчы“ і, як такое будзець раздроблена і пераварана польскім жыватом, які не прызнае ніякіх іншых законаў апрача закона сваей нацыянальнай фізыолёгіі, свайго дзяржаўнага апэтыту.

Раз мы прызнаем, што Заходняя часьць Беларусі, адрэзаная ад Усходняй няведама як доўга будзе мадзець у межах Польшчы і адначасна павінна захаваць нацыянальнае адзінства перш-на-перш у сябе, ўнутры, дык значыць гэтая Заходняя часьць павінна выпрацаваць сваю асаблівую індывідуальнасьць, зрабіцца індывідуальным, самастойным цэлым.

А раз гэта так, значыць гэтае індывідуальнае цэлае г. з. Заходняя Беларусь *павінна мець свой асаблівы цэнтр, сваю цэнтральную арганізацыю.* Без такога цэнтральнага органа, як мы ведаем, ні ў біолёгічным, ні тым больш у палітычным сьвеце *немагчыма ніякае арганічнае адзінства, немагчыма захаваньне у ім самастойнасьці, а нават і жыцьця.*

І вось, як нам ня сорамна і ня горка, але трэба прызнацца, што для стварэньня гэтага цэнтра ня толькі нічога ня робіцца іншымі прызванымі і адпаведнымі перад беларускім грамадзянствам і народам палітыкамі, але, як гэта ня дзіўна, нават тыя цэнтры, якія істнавалі якісь час да выбараў распаліся, распыліліся і ня істнуюць у назове ні на паперы.

Ці-ж ня дзікае зьявішча ёсьць тое, што сяляне бачучы вывеску Бел. Нац. К-ту на Вострабрамскай 9, заходзяць па сваіх справах і ня толькі не знаходзяць Камітэту, але і ня могуць дапытаць ці ён ёсьць дзе і ці будзе калі.

Нацыянальны Камітэт фактычна і фармальна ня істнуе. Яго быўшы старшыня болей года назад высланы з Польшчы, і астаўшыйся без галавы Камітэт нават не паклапаціўся выбраць сабе новага... Ад самых выбараў, на час якіх Нацыянальны Камітэт выдзеліў з сябе — Выбарны Камітэт — ён больш не сабіраўся.

Цэнтральная Народная Рада, заснованая на зьездзе, скліканым Выбарным Камітэтам, аказалася мёртванароджанай. Саставіўшы для сябе статут, які перадала паслам для легаліцазыі, Рада супачыла на гэтым... Статут аказаўся яе тэстамэнтам...

Адзіным жывым цэнтральным органам, афіцыяльна выступаючым ад імя ўсей Заходняй Беларусі, зьяўляецца Пасольскі Клюб.

Але пры ўсей карыснай працы беларускіх паслоў у Польскім парлямэнце, гэты Клюб мае сваю рэзыдэнцыю ў Варшаве, аддзельныя ягоныя прадстаўнікі ў парадку дэпутацкіх справаздач падтрымліваюць пэўную сувязь з некаторымі мясцовымі групамі сваіх выбаршчыкаў, робячы мітынгі то ў Лаварышках, то ў Ільі..

Але-ж ці такое аб‘яднаньне Беларусі можна прызнаць выстарчаючым!?

Ці-ж ня дзіўна, што пасьля 8 месяцаў парлямэнцкай дзейнасьці сама сталіца Заходняй Беларусі — беларуская Вільня — ні разу не пачула публічна голасу сваіх паслоў!?

Ці-ж нармальна, што сам Нацыянаньны Камітэт, які ў асобе выдзелянага ім свайго органу правёў выбары, азначыў у згодзе з мясцовымі камітэтамі асабісты склад беларускага прадстаўніцтва ў Сойме і Сэнаце, да гэтай пары нават не пацікавіўся як яно зьдзейсьнівае апрацаваную ім, Віленскім Беларускім Нацыянальным Камітэтам, праграму, за якую ён, як у значнай меры і за паслоў, нясе, калі не юрыдычную, дык маральную адказнасьць перад Беларускім Народам!?

Ці-ж нармальна, — нават перад пагрозаў небясьпекі разьдзяленьня і паралізуючай яе неабходнасьці самага цеснага аб‘еднаньня арганізацыі, але і проста з пункту гледжаньня звычайных нормаў адносін парлямэнцкай фракцыі да паслаўшага яе нацыянальнага цэлага, — тое, што *да гэтага часу ня было склікана ніводнага агульна-беларускага зьезду*, які дзеля грамаднай масы стаячых перад Беларускім Народам у сучасны, асабліва-востры пэрыяд, заданьняў культурна-нацыянальнага, палітычнага і эканамічнага жыцьця, выслухаў-бы даклады паслоў аб сучасным мамэнце, аб дзейнасьці іх за мінуўшы бадай поўнасьцю ўжо парлямэнцкі год!?

Такіх зьездаў нашыя браты ўкраінцы здалелі ўжо зрабіць аж некулькі...

Нават беларусы ў далёкай Амэрыцы таксама ладзяць на восень Усебеларускі-Амэрыканскій Кангрэс...

А мы тут, у сэрцы аграмаднага беларускага народнага масыва, ў поўнай сьвядомасьці тых грозных небясьпек, чуючы адчаяны крык зажыва пажыраемага нашага нацыянальнага і соцыяльнага жыцьця, не зрабілі нават кіўка пальцам, каб склікаць які зьезд, каб распрацаваць на ім *неадложную праграму усіх спосабаў, якімі жывы беларускі народ пад кіраўніцтвам сваіх дзеячоў павінен тут у Заходняй Беларусі ратаваць сябе ад пагражаючага яму зьнішчэньня.*

Трэба помніць, што без гэткага цэнтру няма аб‘еднаньня, без гэткага цэнтру няма жывога арганізма нацыі, без гэткага цэнтру няма і ня можа быць пляновай і арганізованай барацьбы з раздзяленьнем і раздрабленьнем народным, няма і ня можа быць супраціву таму нацыянальнаму зьніштажэньню, якое гатуець для беларускага народу Польская Дэмакратычная Рэспубліка.

*Зьезд павінен быць неадкладна скліканым!..*

## Панская правакацыя.

Мы атрымалі пэўныя весткі, якія крыху прыаткрываюць таёмнасьць вядомых масавых арыштаў беларусаў у сакавіку г. г.

Аказываецца, што ў Дзісенскім павеце істнавала цэлая арганізацыя, якая мела заданьнем вясьці ўселякім спосабамі змаганьне з беларускім рухам да правакацыі ўключна. На чале гэтай арганізацыі стаялі: начальнік району ў Дзісьне п. Манкевіч і быўшы чэкіст г. Белозерску, а цяперашні вывядовец, Улінскі, войт Язьненскай гміны Сьпірыдовіч, яго заступнік Багуцкі, вялікі абшарнік п. Мілашэўскі і шмат іншых паноў, паўпанкаў і нават урадоўцаў.

Гэтая арганізацыя мела вялізарныя ўплывы і літэральна трымала ўладу ў сваіх руках, стэрарызаваўшы ўвесь павет і ўсю адміністрацыю, а нават і судовыя ўлады. Вынікам яе правакацыі, даносам і былі вядомыя масавыя арышты беларускіх дзеячоў у сакавіку г. г.

Але дзякуючы энэргіі судзебнага сьледавацеля ў Глыбокім, уся гэтая цёмная справа была выкрыты і паны Манкевіч, Улінскі, Сьпірадовіч, Багуцкі, Мілашэўскі і пам. камэнданта паліцыі п. Ліходзееўскі арыштаваны і сядзяць, хто на Лукішках, а хто ў Вялейцы.

Цікава зазначыць, што арышты гэтых асоб, якія былі зроблены па загаду сьледавацеля N, далі повад думаць пракуратуры, што сьледавацель N звар‘яцеў і ў Глыбокое былі высланы два дактары, якія „zbadali“ аго і прызналі зусім здаровым і нармальным.

З прычыны таго, што сьледства яшчэ не закончана, мы на гэты раз агранічымся паданымі весткамі, дапаўняючы іх па меры далейшага выясьненьня ўсей гэтай надзвычайна бруднай, харахтэрнай для нашых „Крэсаў“ справы—панскага „białorusożerstwa“.

*Першы абавязак працоунай клясы ёсьць заваеваньне сабе палітычнай моцы.*

*К. Маркс.*

## Нацыянальнае пытаньне у Саюзе Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

На разьвіцьцё сацыяльнай рэвалюцыі ў такой шматнацыянальнай краіне, як ранейшая Расейская імпэрыя, а цяперашняя Савецкая фэдэрацыя, мае значны ўплыў нацыянальнае пытаньне. Дзеля гэтага зусім зразумела, чаму камуністычная партыя аддае гэтаму пытаньню шмат увагі і на разгляд яго на сваіх зьездах траціць багата часу.

У апошнія часы камуністычная партыя прышла да цьвёрдага пераканаьня, што побач з клясавым мамэнтам у барацьбе з сьветным капіталам і імпэрыялізмам у прыгнечаных нацыяў вялікую ролю адыгрывае і павінен адыгрываць нацыянальны мамэнт.

Крывавая грамадзянская вайна, якая бушавала на тэрыторыі быўшай Расеі выразна паказала Савец-

кай уладзе, што нацыянальны момант мае вялізнае значэньне і што трэба павярнуць справу так, каб у далейшым гэты фактар быў ня проціў яе, але за яе.

Асабліва дэталічна, усебакова нацыянальнае пытаньне было разгледжана на 12 парт. конфэрэнцыі Беларусі, на 12 партыйным зьезьдзе і на 7-ай партыйнай конфэрэнцыі Украіны.

Такім чынам, камуністычная партыя нацыянальнае пытаньне з прынцыповага боку высьветліла вельмі дакладна, і цяпер толькі ідзе аб тое, каб пастановы партыі былі праведзены ў жыцьцё, а не засталіся толькі на паперы.

Украінская рэспубліка адна наймацнейшая сярод савецкай фэдэрацыі. Украіна лічыцца ня толькі жытніцай Саюзу, але ідзе першай па правядзеньні ў жыцьцё ўсіх пастаноў зьезда саветаў. Да вырашэньня нацыянальнага пытаньня першай прыступіла Украіна і першая пачала рэалізаваць пастанову 7-ай партыйнай конфэрэнцыі. Цяпер ужо губкомы Украіны прыступілі да ўкраінізацыі савецкага і партыйнага апарата.

Для прыкладу прывядзём тут пастанову Кіеўскага Губкома.

### Савецкі апарат.

1) **Сяло і раён.** На працягу 6 месяцаў дзелаводзтва сельскіх саветаў і раённых выканаўчых камітэтаў павінна перайсьці на ўкраінскую мову. Старшыні сельсаветаў, сябры раённых выканаўчых камітэтаў і міліцыя павінны ў той-ж тэрмін вывучыць украінскую мову. У школе сэкратароў раённых выканаўчых камітэтаў неаднакладна ўвясьці абавязковае выкладаньне ўкраінскай мовы, якнайбольшую лічбу лекцыяў выкладаць паўкраінску, пры выпуску слухачоў школы трэбаваць абавязковага знаёмства з украінскаю моваю.

2) **Вокруг.** На працягу году перавясьці на ўкраінскую мову ўсё дзелаводзтва акружных выканаўчых мамітэтаў, у першую чаргу— не пазьней 6 месяцаў аддзелы: народнай асьветы, зямельны, упраўленьня, фінансавы, харчовы і народны суд.

3) **Губэрня.** У працягу году перавясьці на ўкраінскую мову, дзелаводзтва ўва ўсіх апаратах зьвязаных з сялом: народнай асьветы, упраўленьня, зямельны аддзел, фінаддзел, харчовы камітэт, суд. Адначасна з гэтым вясьці ўкраінізацыю ўсяго савецкага апарату.

Усіх савецкіх служачых абавязаць у працягу году вывучыць украінскую мову. Усе абавязковыя пастановы Губ. Вык. Камітэту павінны абвяшчацца паўкраінску і парасейску. У школе губміліцыі павінна быць уведзена выкладаньне ўкраінскае мовы, веданьне якой зрабіць абавязковым пры выпуску.

### Прафсаюзы.

Увясьці ўкраінскую мову ў прафсаюз працаўнікоў зямлі і лесу дзьве мовы (украінскую і расейскую) ў саюзы працаўнікоў асьветы і цукраварнікаў. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на саюз працаўнікоў асьветы, які вядзе працу сярод сельскага настаўніцтва.

### Партыя.

1) Працу раённых партыйных камітэтаў перавесьці на ўкраінскую мову ў працягу 6 месяцаў. У акругох ў той-ж тэрмін перавесьці на украінскую мову ўсю працу, якая зьвязана з сялом.

2) У губерскім апараце ў той-ж тэрмін перавесьці на ўкраінскую мову ўсю працу, якая зьвязана з сялом.

3) У губэрскай савецка-партыйнай школе ўвясьці выкладаньне ўкраінскай мовы. Якнайбольшую лічбу лекцыяў выкладаць паўкраінску. Выкладаць украіназнаўства. Зрабіць абавязковым веданьне ўкраінскай мовы пры выпуску.

4) Арганізаваць курсы ўкраінскай мовы і ўкраіназнаўства для адпаведных працаўнікоў.

### Школа.

1) Зрабіць абавязковым ўва ўсіх школах выкладаньне ўкраінскае і расейскае мовы.

2) Моваю выкладаньня ў сельскіх школах павінна быць абавязкова ўкраінская мова, за выключэньнем сельскіх мяйсцовасьцяў з іншымі нацыянальнасьцямі.

3) Школы прафэсыянальнай асьветы і ў першую чаргу школы народнай асьветы і сельска-гаспадарчыя украінізаваць з тым, каб яны здавальнялі патрэбы ўкраінскае школы і ўкраінскага жыхарства, забясьпечыўшы патрэбы неўкраінскага жыхарства.

### Друк.

1) Узмацаваць і павялічыць тыраж газэты „Більшовік“.

2) Узмацніць працу Дзяржаўнага Выдавецтва па выданьню як масавай, гэтак і марксіцкай і навуковай літэратуры на ўкраінскай мове.

3) Усе павятовыя газэты не пазьней трохмесячнага тэрміну павінны перайсьці на ўкраінскую мову.

### Мастацтва.

1) Пачаць выданьне літэратурна-мастацкага журналу на ўкраінскай мове.

2) Падтрымліваць і спрыяць разьвіцьцю музыкі і тэатраў, якія працуюць на ўкраінскай мове, асабліва тэатр Курбаса.

### Нацыянальн. меншасьці.

1) Даручыць бюро Губкому узмацніць працу нацыянальных сэкцыяў.

2) Падтрымаць партыйны друк нацыянальных меншасьцяў.

3) Падтрымаць мастацтва нацыянальных меншасьцяў.

Ёсьць пэўныя чуткі, што такая беларусізацыя ў хуткім часе будзе праводзіцца і ўва ўсходняй Беларусі, доказам чаго можа служыць хоць-бы аб'яўленая амнэстыя для беларусаў, выступаўшых супроць савецкай улады—гэтым Савец. Беларусь хоча папоўніць рады сваіх працаўнікоў людзьмі, якія могуць быць карыснымі для беларускай культуры.

**Ж.**

---

## Сучасная авіатыка.

У апошнія часы газэты ўдзяляюць ня мала месца на паведамленьні аб гарачковай будове паветранага флёту ўва ўсіх дзяржавах. Гэта доказ таго, што ў будучай вайне паветраны флёт будзе мець рашучае значэньне.

Ужо ў мінулую імпэрыялістычную вайну выявілася вялізарнае значэньне паветранага флёту. Пад канец вайны разьвіцьцё паветранага флёту дайшло да таго, што сталі рабіцца масавыя налёты ў самую сярэдзіну няпрыяцельскага краю, на вялікія месты, вайсковыя склады і фабрыкі. Месты, якія знайходзіліся на 600—700 вёрст ад фронту, маглі кожны дзень чакаць нападу варожага паветранага флёту. Калі-б вайна ня скончылася ў 1918 годзе, то ўжо ў 1919 годзе францускія самалёты маглі-б засыпаць бомбамі ўвесь Бэрлін.

Пасьля вайны сталі прыдумываць новыя самалёты, новыя бомбы, новыя спосабы ўжываньня паветранага флёту. У Амэрыцы цяпер робяцца практыкаваньні з бомбамі ў 10 тоннаў вагі (тонна—61 п.!). Таксама ў Амэрыцы былі выпадкі пралятаньня без астаноўкі каля 3000 вёрстаў, былі выпадкі безастановачнага палёту больш як па 30 гадзін. Пры такіх варунках нават самае далёкае ад граніцы места, таксама можа чакаць да сябе непажаданых паветраных гасьцей.

Першае мейсца па лічбе паветранага флёту і разьвіцьцю авіацыйнай прамысловасьці займае Францыя. Не зважаючы на тое, што Францыя мае вялікую марскую граніцу, мае калёніі, аднак, яна больш налягае на паветраны флёт, чым на марскі. У сучасны момант Францыя мае паветраны флёт большы, чым усе іншыя дзяржавы ў Эўропе разам і ў 8 разоў большы, чым паветраны флёт самага блізкага яе суседа—Англіі. У часе вайны Францыя можа выставіць больш 4000 самалётаў, а па іншых крыніцах яшчэ болей. У 1922 годзе ўва Францыі знайходзілася на ваеннай службе каля 3.000 лётчыкаў, а ў часе вайны лічба гэтая можа быць падвоена.

Разам з тым Францыя мае самую вялікую авіацыйную прамысловасьць у сьвеце, якая абслугоўвае ня толькі Францыю, але й хаўрусныя з ёю дзяржавы. За 11 месяцаў у 1922 годзе Францыя пабудавала 3.300 самалётаў, у той час як, напрыклад, Амэрыка толькі 300 з лішкам.

Адначасна з разьвіцьцём ваеннага паветранага флёту Францыя зьвяртае вялікую ўвагу і на камэрцыйныя паветраныя лініі. З Францыі рэгулярна адлятаюць самалёты ўва ўсе бакі, ва ўсе важнейшыя месты і сталіцы іншых дзяржаваў. За 6 гадзін можна з Парыжу заляцець у Прагу, а за 9—у Варшаву.

Аднак і Нямеччына па часьці камэрцыйнай авіацыі мала застаецца ззаду ад Францыі і мае шмат камэрцыйных паветраных лініяў, якія злучаюць Бэрлін з важнейшымі местамі Нямеччыны і заграніцы, — у тым ліку і з Масквою.

Адчуваньне той ролі, якую будзе мець у будучай вайне авіацыя, застаўляе ўсе дзяржавы шмат увагі аддаваць пабудоўцы паветранага флёту. Англія цяпер мае каля 32—38 паветраных эскадрыліяў; на 1925 год гэтая лічба дойдзе да 47; Францыя-ж за гэты час спадзяецца павялічыць свой паветраны флёт з 140 эскадрыліяў да 220 (каля 2.000 аэропляnaў).

Зьвяртае ўвагу на авіацыю таксама Італія, якая маецца патраціць на паветраны флёт у 1923 годзе 280 мільёнаў лір і спадзяецца давясьці лічбу сваіх эскадрыліяў да 70-ці.

Не застаецца ззаду і Японія, якая побач з паветраным флётам будуе і марскі. У Японіі цяпер будуецца болей крэйсэраў, чым ўва ўсіх іншых дзяржавах на сьвеце разам. Што тычыцца паветранага флёту, дык Японія ўжо мае 34 эскадрыліі, але авіацыйная прамысловасьць Японіі расьце вельмі шпарка, будуюцца ўсё новыя і новыя аэрапляныя заводы і магчыма, што па часьці авіацыі Японія хутка дагоніць і перагоніць Амэрыку, якая мае цяпер 53 эскадрыліі.

Саюз Савец. Соцыял. Рэспублік ня гледзючы на страшное эканамічнае зруйнаваньне энэргічна будуе паветраны флёт і ўжо ў кароткі час дасягнуў вялікіх вынікаў.

Цяпер Савецкая Фэдэрацыя мaeць ужо апрача ваеннай авіатыкі яшчэ і аграмадную сетку т. зв. дзяржаўных і прыватных паветраных рэйсаў. Заданьне дзяржаўнай авіатыкі абслужываць патрэбы пошты. Ужо наладжаны пастаянныя зносіны па лініях: Масква—Арэнбург, Арэнбург—Табольск, Арэнбург—Бухара, Табольск—Томск, Табольск—Омск, Томск—Іркутск, Іркутск—Якутск—Сахалін. У бліжэйшы час наладжываюцца зносіны і паміж іншымі пунктамі Фэдэрацыі.

Ня меншай сеткай карыстаецца і прыватная пасажырская авіатыка; яна маець зносіны з Эўропай, Турцыяй, Пэрсіяй і Індастанам. Каля 150 самалётаў абслугоўвае гэтую лінію.

Гідрафлёт налічвае 20 апаратаў.

Кліч да заваяваньня паветра, кінуты савецкай уладай нашоў падтрыманьне сярод шырокіх мас насяленьня. Кожная рэспубліка зьбірае ахвяры і будуе свой флёт. Савец. Беларусь за кароткі час здалела пабудаваць ужо тры самалёты.

---

## Палітычныя падзеі.

### Рэакцыя ўмацоўваецца.

Рэакцыйныя элемэнты цьвёрда йдуць да ўмацаваньня свае ўлады. Там, дзе, як напр. у Італіі, ўлада ўжо апанавана, аснаўныя законы рэфармуюцца так, каб забясьпечыць на доўга сваё панаваньне, прыдаючы яму праўную форму. Так Мусоліні запрапанаваў парлямэнту праект рэформы выбарнага закону, які бесцэрамонна адкідае традыцыйны прынцып дэмакратызму — агульнае, прамое, роўнае, тайнае, прапарцыянальнае выбарнае права і ўводзіць новы прынцып — забесьпячэньня абсалютнай большасьці тэй партыі, якая атрымае адносную большасьць на выбарах. Мэта гэтай рэформы ясная: Мусоліні спадзяецца, што, маючы ў сваіх руках дзяржаўны апарат, ён так наладзіць выбары, што фашысты атрымаюць большасьць у параўнаньні з другімі партыямі, а тым самым дасьць фашыстам і абсалютную большасьць. Такім чынам дыктатура буржуазіі зьдзейсьніцца ў поўнай меры, замаскавана, будзе мець зусім законны выгляд і незалежаць ад становішча дробна-буржуазных лібэральных груп, якія ўсё яшчэ ня могуць парваць з туманным дэмакратызмам.

Працоўныя клясы Італіі, трэба спадзявацца, зробяць належныя вывады з гэтага. Там, дзе буржуазія выразна парвала з прынцыпамі дэмакратызму, пралетарыяту так-сама лягчэй прыйсьці да перакананьня, што клясавае змаганьне павінна вясьціся не на парлямэнцкай арэне, дзе зараней забясьпечана перамога буржуазіі.

У Нямеччыне, дзе дэмакратычная канстытуцыя перашкаджае буржуазіі ўзяць абсалютную ўладу ў свае рукі. буржуазія рыхтуецца захапіць уладу сілай, так, як гэта зрабіў Мусоліні ў Італіі. Уся Нямеччына, а асабліва Баварыя і Прусія перапоўнена рознымі легальнымі і нелегальнымі арганізацыямі, якія выразна маюць на мэце зрабіць аружны пераварот, каб вярнуць манархічны лад і аддаць уладу вялікай буржуазіі. „Дэмакратычны“ ўрад Куно надта „падэмакратычнаму“ вядзе змаганьне з гэтымі чарнасоценнымі арганізацыямі, забараняючы адначасна пралетарыяту ствараць арганізацыі, каб даць адпор падобным спробам.

Зусім зразумела. што працоўная кляса ня можа давяраць сучасным уладам, што яны забясьпечаць істнаваньне нават сучаснага сацыяльнага ладу.

Камуністычныя паслы выступілі ў прускім Сойме з прапазыцыяй, каб зноў была дазволена арганізацыя пралетарскіх сотняў, з прычыны ўсё ўзрастаючых выступленьняў фашыстаў, якія захоўваюцца правакацыйна, выклікаюць крывавыя стычкі і нішчаць работніцкія ўстановы. Дзеля гэтага Сойм павінен пастанавіць: дазволіць арганізацыю пралетарскіх сотняў, узбраеньне іх з дзяржаўных запасаў аружжа, распусьціць усе фашыстаўскія арганізацыі, ачысьціць паліцыю ад рэакцыйных элемэнтаў і звольніць з вастрогаў усіх палітычных, пасаджаных за барацьбу з фашыстамі і контр-рэвалюцыяй.

Зараней можна сказаць, што дэмакратычны прускі Сойм адкіне гэтую прапазыцыю, і зусім слушна „Rote Fahne“, асьцярагае сваіх чытачоў, каб не ашуківалі сябе надзеяй зьдзейсьненьня гэтых пастулятаў на парлямэнцкім грунце. „Толькі заціснуты кулак — сканцэнтраваная сіла нямецкага пралетарыяту — можа зьдзейсьніць гэтую прапазыцыю. Далоў мяшчанскі парлямэнтарызм! Жадаем работніцкага ўраду!“—заканчывае газэта.

**Язьвіч.**

### ПОЛЬШЧА.

У Беластоку закончылася забастоўка работнікаў мэталічных прадпрыемстваў. Работнікі атрымалі 60% падвышкі. Цікава, што N.P.R., якая мае свой саюз, налічываючы 20 сябраў, недалучылася да забастоўкі, якой кіраваў клясавы профэс. саюз.

Забастоўка мэталістаў у Варшаве яшчэ пашыралася, ахопліваючы ўсе фабрыкі. Сярод работнікаў пануе абурэньне з прычыны таго, што фабрыканты ня йдуць ні на якія ўступкі. Будаўляныя работнікі таксама аб'явілі забастоўку, дамагаючыся 50% падвышкі.

---

У Любліне забастоўка ахоплівае ўсе мэталічныя фабрыкі. Забаставалі таксама муляры. Палажэньне ў Бельску без перамен; настрой работнікаў моцны. 17 ліпеня забаставалі будаўляныя работнікі ў Тарнове.

ралі да зваленьня сучаснага ладу ў Польшчы, называючы яго буржуазным, капіталістычным, даказваючы, што ўрад павінен быць работніцкім.

Станіслаў Карась, робячы „wywiad“ аб дзейнасьці і павядзеньні пэўных асобаў, устанавіў, што абодва браты Эпштэйны—Аўсей і Бэньямін яшчэ за два месяцы перад выбарамі ў Сойм і Сэнат распаўсюджывалі камуністычную літэратуру ў рабочых саюзах, піўных і гарэлачных бравароў, сярод саюзу іглы, табачнага і будаўлянага.

На адным з пасяджаньняў клясавых профэсыянальных саюзаў, дзе разглядалася справа злучэньня клясавых саюзаў Віленшчыны з гэткімі самымі саюзамі ў Варшаве, абодва Эпштэйны, ня гледзячы на тое, што ўжо адбылося „wcielenie“ Віленшчыны да Польскае Рэспублікі, спрацівіліся гэтаму „wcieleniu“, цьвердзячы, што пытаньне аб прысваеньні Польшчаю Віленшчыны ня вырашана, а сапраўды спраціўляліся дзеля таго, што варшаўскія саюзы былі пад уплывам P.P.S. (Польскае Соцыялістычнае Партыі), тымчасам як яны, пашыраючы камуністычную прапаганду ў саюзах Віленшчыны, хацелі захаваць свае ўплывы.

Той самы Станіслаў Карась устанавіў, што Людвік Грышун і Ян Вэнгроўскі вядомыя, як камуністычныя дзеячы ў клясавых профэсыянальных саюзах...

Вінцэнты Дмоўскі, Язэп Рутэнбэрг і Маркус Юзэфовіч схаваліся і паліцыяй дасюль ня знойдзены.

Абвінавачаныя ў прыналежнасьці да арганізацыі „Саюзу пролетарыяту местаў і вёсак“ на папярэднім сьледзтве да віны ня прызналіся і, паміж іншым, кожны з іх заявіў, што да ніякае палітычнае партыі не належыць.

На моцы даных акту абвінавачаньня, Бэньямін Эпштэйн 18 гадоў, Аўсей Эпштэйн 22 гадоў, Ян Лікша 48 г., Ян Вэнгроўскі 35 г., Людвік Грышун 39 г., і Мірыям Браўдэ 23 г., пацягнены пад суд за тое:

1) што ў верасьні й кастрычніку 1922 году ў Вільні, загадзя паразумеўшыся паміж сабою і выступаючы сьвядома, супольна бралі удзел у арганізацыі пад назваю „Камуністычны Саюз Пралетарыяту Местаў і Вёсак“, ведаючы, што арганізацыя гэта паставіла сабе мэтаю дзейнасьці зваленьне істнуючага ў Польшчы грамадзкага ладу.

2) што 3 верасьня і 8 кастрычніка 1922 г. у Вільні ў салі Крэйнгеля, ў доме № 4 на Людвісарскай вуліцы, на камуністычных мітынгах саюзу пролетарыяту местаў і вёсак публічна распаўсюджывалі адозвы, якія падбуралі да зваленьня істнуючага ў Польшчы грамадзкага ладу.

Гэткія праступкі прадбачаны: першы ў арт. 126 ч. I. Карнага Кодэксу і другі ў арт. 129 ч. I. уст. 2. К. К. і падлягаюць компэтэнцыі Акружнога Суду ў Вільні.

### Дапрос сьведкаў.

Першым дапрашываецца сьведка Вацлаў Стэцкі — кіраўнік 1-га рэф. аддз. 5. f. дзяржаўнае паліцыі.

Перад яго паказаньнямі, па прапазыцыі Пракурора, проці якой нічога ня мае абарона, дзьверы суда зачыняюцца і публіка пакідае залю.

Пры адкрытых дзьвярох дапрашываецца першым:

Сьведка Цешэйко-Сохацкі, які дае выясьненьні аб адозвах Саюзу Пролетарыяту Местаў і Вёсак. Друкарня на некаторых адозвах замазана. Паўстае цэлая дыскусья аб розьніцы між камунізмам і сацыялізмам, аб расколе ў сацыялізьме наагул і асобна ў польскім сацыялістычным руху,

Другім дапрашываецца сьведка **Жарскі**, які, паміж іншым кажа, што спачатку адозвы Саюзу Пролет. Мест. і Вёсак распаўсюджываліся саўсім легальна і толькі з кастрычніка месяца 1922 г. канфіскоўваліся. На пытаньне абаронцы, ці Выканаўчы Камітэт Саюзу Прол. м. і в. быў легалізаваны ўладамі, сьведка адказвае пацьвярджальна. Гэта робіць на залі досіць заметнае ўражаньне,

Пракурор вядзе дапрос сьведкі ў кірунку выясьненьня партыйнае рознасьці сацыялістычнага руху ў Польшчы.

Дапросам сказаных двох сьведкаў канчаецца першы дзень працэсу.

(*Працяг будзе*).

## З Менску.

### Быўшыя жыдоўскія могілкі пад Батанічны сад.

Па пастанове прэзыдыуму Менскага Гаріспалкому, быўшыя жыдоўскія могілкі перадаюцца пад Батанічны сад пад ведамам Беларускага Сельска-Гаспадарчага Інстытуту і Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытету.

### Малочны аддзел жывёлаводзтва.

Аддзелам жывёлаводзтва Наркамзему мяркуецца да адчыненьня ў Менску цэнтральнай малочнай для збыту насяленьню малака з гарантыяй яго добракаранасьці.

### Студэнты—практыканты.

Студэнты Беларускага Сельска-Гаспадарчага Інстытуту гэтым летам будуць прымаць удзел ў практычнай працы на сельскай гаспадарцы.

Ужо камандыравана на агранамічныя пункты Наркамзему 12 чалавек.

## З. Бабруйску.

### 25 новых беларускіх настаўнікаў.

У Бабруйску адбыўся выпуск слухачоў Пэдагагічнага тэхнікуму.

Выпуск дае 25 новых настаўнікаў, якія змогуць вясьці ў сваіх школах выкладаньне пабеларуску.

## Весткі з вёскі.

### Як хітра была зачынена беларуская школа.

У нашай вёсцы Збляны, Беліцкай гміны, Лідскага павету істнавала ўперад беларуская пачаткавая школа. Усе нашыя людзі былі рады, што дзеці неяк шыбка навучаваліся і чытаць і арытмэтыкі. Але хутка здарылася няшчасьце: нашага вучыцеля інспэктар Лідскага павету, пан Вайтовіч прымусіў паехаць на польскія курсы ў Кракаў, а другога вучыцеля беларуса на яго месца ня вызначыў, і замёрла наша беларуская школа. Чакалі тады назад свайго былога вучыцеля. Урэшці ён прыехаў, але неяк не ўдавалася яму весьці ранейшую працу ў школе. На ўсе просьбы яго і сялян да п. Вайтовіча чуцен быў адзін адказ, што ён ня мае адносна да зацьверджаньня ў нас гэтага вучыцеля адпаведнага распараджэньня ад Куратара і ад Міністэрства. І няма ў нас свае школы беларускай: уморана надта хітра.

**Зблянец.**

### Цяжка дастаць прасьвету.

Вучыцель Мікалай Шыманка, родам з вёскі Дабучына Пружанскага павету, хацеў дастаць вышэйшую навуку і, нямогшы паступіць у польскі унівэрсытэт, уздумаў паехаць заграніцу. Ня маючы грошай, каб дастаць заграніччы пашпарт, ён перабіраўся нелегальна 14. I. 23 г. праз граніцу ў Чэхаславакію, але быў заарыштованы ў павятовым месьце Чорны Дунаец Кракаўскага ваяводзтва і скуты ў ланцугі—як нібы належачы да нейкай антыдзяржаўнай баявой арганізацыі — адвезены быў ў турму у месьце Новы Сонч пад Кракавам. У турме трымалі гэтага юнака, шукаўшага унівэрсытэцкай навукі, два месяцы ў аднэй камэры разам з шасьцьма зладзеямі-крыміналістымі. Акружны Суд у Новым Сончы, не знайшоўшы матарьялаў да абвінавачаньня, звольніў яго з турмы.

**Плыгаўка.**

### Няшчасьце цяпер з сэрвітутамі.

Жыхары вёскі Уліна, гміны Лужкі, Дзісьненскага павету судзіліся з дваром Лужкі графа Зібер-Плятара за сэрвітут; спачатку выіграў справу ў судзьдзі ў Лужкох граф, але Акружны Суд ў Вільні вырашыў 26 мая гэтага году справу на карысьць сялян. Аднак сяляне ў правох на тую сэрвітутную зямлю чамусьці да гэтага часу не зацьверджаны і ня могуць карыстацца з сэрвітуту. Цікава было-б ведаць, што за прычына адцягаваньня ў спаўненьні рашэньня суда? Няўжо двор падаў яшчэ ў Апеляцыйны Суд у Варшаву? А можа справа гэтая абцяжылася тым, што на тых сэрвітутных палях селі яшчэ вясной (у лютым месяцы) гэтага году шэсьць польскіх вайсковых асаднікаў, якія не здарма-ж бахваляцца: няхай цяпер гэтыя хамы з намі пасудзяцца!

**Апанасёнак.**

## Сялянскі спэктакль.

### (Навасельская вол., Ігум. пав.).

На гэтых днёх моладзь вёскі Лядца, Навасельск. вол., Ігумен. пав. паставіла спэктакль. Ігралі п'еску „Модны шляхцюк“.

Трудна было верыць, што гэта сялянская моладзь ад плуга, бараны, каторая штодзень мае стольки клопатаў каля свае гаспадаркі!

Гралі так добра, з такім гарачым імпэтам і натхненьнем, што, сказаўшы папраўдзе, такіх гаспадароў, сватоў, каторыя выведзены ў п'есе „Модны шляхцюк“, я бачыў толькі ў сялянскай хаце. Так усё было рэальна, такая чыстая беларуская мова са звычайным акцэнтам вёскі, што цяжка было распазнаць— ці то запраўды перад вачыма сялянская хата і сям'я, ці гэта сцэна.

Мацуйцеся ж, лядцаўцы, і ў сваіх дальшых спэктаклях таксама пекна выяўляйце быт нашага ўмілаванага краю.

**Т. І.**

## Як ратаваць захварэўшую жывелу.

**Уздуцьцё трыбуха** бывае, калі карміць рагатую жывёлу сапсутым кормам, зьмёрзлай або гнілой бульбай, зацьвіўшым сенам і г. д. Пры гэтай хваробе хутка павялічываецца жывот, асабліва з левага боку; галодная ямка ажно выпучываецца. Дыхаць жывёла пачынае часта, ногі ў яе слабеюць і яна валіцца на зямлю. Праз поўгадзіны яна можа здохнуць.

**Лячэньне 1.** Калі жывот уздула трошкі або ён павялічываецца памаленьку, трэба пробаваць рабіць націраньне жывата з левага боку, пры чым жывёлу паставіць перад вышай. Час ад часу левы бок абліваць халоднай вадой ды ізноў націраць; гэтак робіцца некулькі разоў. У глотку налічваюць дзёгцю або газы па аднэй шлянцы і ставяць цеплаватыя клізмы з мыльнай вадой.

**2.** Калі-ж жывот павялічываецца вельмі хутка і пагражае сьмерць жывёле, дык трэба зараз жа пракалоць жывот траакарам або, калі яго няма пад рукамі, шырокім нажом звычайнага сцызорыка; добра таксама правесьці ў трыбух праз рот „харчаводны зонд“. Калоць трэба з левага боку, пасярэдзіне галоднай ямкі. Пасьля таго, як з жывата выйдзе паветра, жывёле ня можна даваць шмат есьці ў працягу 4-5 дзён. Добра, калі даваць ёй тры разы ў дзень па 1-2 чайных лыжкі саляной кіслаты на бутэльку вады.

## Паведамленьне.

Гэтым даводзім да ведама ўсім нашым падпішчыкам, што з 1-га жніўня г. г. у газэце „Наш Сьцяг“ адкрываецца аддзел „Юрыдычных парад“.

Розныя запытаньні з апісаньнем справы просім прысылаць на адрас Рэдакцыі (Wilno, Wileńska 12—6). Адказы і парады будуць друкавацца ў газэце дарма.

**Рэдакцыя.**

## Курс на грошы.

**Варшава 25 ліпеня.**

| | |
|---|---|
| Даляры . . . . . . . . . | 135.000 |
| Бэльгійскія франкі . . . | — |
| Нямецкая марка . . . . . | 0.24 |
| Франкі . . . . . . . . . | 8.100 |
| 10 руб. золатам . . . . | 920.000 |

## Сэкрэтарыяты Беларускага Пасольскага Клюбу.

1) **Вільня**, Віленская вул. 12, кв. 6.
2) **Ліда**, I I Слабодка 8.
3) **м. Глыбокае**, Дзісьненскага пав. вул. Сенкевіча 46.
4) **Жодзішкі**, Сьвянцянскага павету кс. Годлеўскі.
5) **Навагрудак**, Вялікі Рынак 14.
6) **Нясьвіж**, Альбянская 28.
7) **Столбцы**, Шпітальная 22.
8) **Горадня**, Мастовая 9.
9) **Бельск**, Замкавая вул. 3, кв. 1
10) **м. Саколка**, Горадзенская вул. 34.
11) **м. Кляшчэлі**, Бельскага павету.
12) **м. Крынкі**, Горадзен. павету, Горадзенская вул. 34.
13) **Пружаны**, Вуліца кс. Буткевіча, 16.
14) **Беласток**, Нова-Варшаўская вул. № 83.

**Беларускі Пасольскі Клюб**, Варшава, Вейская вул. Сойм.



*Пішыце да нас аб жыцьці—быцьці вёскі, аб сваіх ворагах і прыяцелях. Хай кожны падпішчык „Нашага Сьцягу“ будзе і яго супрацоўнікам.*

**Падтрымовывайце „Наш Сьцяг!“**

Рэдактар-выдавец **Я. Лагіновіч.**

Друкарня **Левін і Сын**, Нямецкая 22.